Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная ГАЗЕТА

No 7(43) 16 -- 22 лютага 1996 года ЦАНА 1000 рублёў, у распаўсюджвальнікаў -- свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Пра ПКБ, прыватызацыю і футбольных балельшчыкаў

**Быццё вызначае свядомасць: эканамічная сітуацыя ў краіне ўплывае на палітычныя працэсы ўсё больш выразна. Камуністы апошнім часам пастаянна імкнуліся падкрэсліць, што яны заўсёды выступалі за пэўныя сацыяльныя гарантыі насельніцтву, а цяпер сітуацыя даволі цікавая: тых жа гарантый дамагаюцца, да прыкладу, пенсіянеры, але грошай у бюджэце няма. Становішча так проста не выправіш.**

**З гэтага пачалася наша гутарка з намеснікам начальніка рэфрыжэратарнага дэпо, што ў Маладзечне, В. Цюшкевічам. Васілю Аляксеевічу няма і сарака, партыйны білет ні ў 1991-м, ні пазней ні на чый стол не кінуў. І разам з тым, ён — не артадокс ад кампартыі.**

*— Расколу ў гарадской арганізацыі ПКБ, як сцвярджаюць, няма. Але ў ёй ёсць па-розным выхаваныя людзі, і ў старэйшых непазбежна будзе незадавальненне ходам падзей.*

— Старэйшае пакаленне мае пачуццё крыўды, разгубленасці. Гэта, натуральна, не лепшыя эмоцыі.

*— Тым не менш, вы сцвярджаеце, што ў іх можна, і нават многаму павучыцца, у падманутага, па-сутнасці, пакалення?*

— Яны ж бяссрэбранікі (хаця і на самой справе ў чымсьці падманутыя). Варта толькі прыгадаць, як добрасумленна яны адпрацоўвалі перад выбарамі: ніхто не спасылаўся не нейкія там абставіны.

*— Першыя асобы гарадской маладзечанскай арганізацыі — людзі ва ўзросце. Магчыма, ад іх зыходзяць спробы дыктату — вопыт, перакананні даюць аб сабе ведаць?*

— Сапраўды, наш першы сакратар мае за шэсцьдзесят. Але Павел Пятровіч Сушко — чалавек спакойны, ураўнаважаны; ён хутчэй згладзіць канфлікт, чым "пасадзейнічае" яго ўзнікненню, а думкі ў нас выказваюцца самыя розныя.

*— Арганізацыі любой партыі ў вытворчых калектывах заканадаўча забароненыя. На ваш погляд, ПКБ пры магчымасці аднавіла б пярвічкі на заводах?*

— Думаю, гэта варта было б зрабіць. Усё ж такі плюс тады пераважаў над мінусам.

*— Аднак цяпер далёка не адна партыя зрабіла б тое самае.*

— Тым не менш у нашым ВС фракцыі ўзаемадзейнічаюць цывілізавана.

*— ВС складана параўноўваць са звычайным вытворчым калектывам. Але вернемся да ПКБ.*

— Не люблю, калі людзі "скачуць", мяняюць перакананні. Ёсць такія: адседзеліся, а цяпер "успомнілі", што маюць (ці мелі) партбілеты. Кампартыя сёння адрозніваецца ад папярэдняй: былі Малафееў, Камай, сёння — Новікаў, Калякін. Асабіста я партыйны білет не хаваў, партыйнасць ні ўнутрана, ні ў анкетах не мяняў. Тое самае В. Гаўрыленка, В. Сіўцэвіч. У мяне няма прэтэнзій да былога мэра Маладзечна Г. Карпенкі, як да чалавека. Але ён быў у КПБ, ПНЗ, ГП, на апошніх выбарах ішоў як беспартыйны. Гэта, паўтару, не папрок, гэта тлумачэнне маёй пазіцыі. У бізнесмены пайшлі многія былыя партфункцыянеры. Як А. Міронаў, напрыклад. Пры Карпенку ў горадзе існавала мода на ПНЗ і футбол. Столькі ў нас раптам выявілася кіраўнікоў-балельшчыкаў, якія дружна запісаліся ў партыю народнай згоды! А ў час выбараў у ВС у акруговую камісію маладзечанскай выбарчай акругі № 199 паступіла даведка, што пярвічнай арганізацыі ПНЗ у Маладзечне не існуе...

*— На шматпартыйнасць хварэлі многія краіны. Большасць беларусаў, напэўна, асаблівага даверу да партый не мае.*

— Дастаткова ўпэўнена магу сказаць, што на маладзечанскім чыгуначным вузле да палавіны працоўных, так бы мовіць, спачуваюць ПКБ. Тут ёсць і небяспечны момант: эканоміка на нулі, няма веры ў справядлівасць, таму для нас гэта і выпрабоўванне на трываласць. Тое ж расслаенне грамадства: з'ява сама па сабе рэальна існуючая, але калі асноўная частка людзей за рысай беднасці, а невялічкая кучка "жыруе"... Словам, калі ў бліжэйшыя гады з чатыры не зможам змяніць сітуацыю ў эканоміцы, вера людзей у нас будзе значна падарваная (фракцыя камуністаў у ВС вялікая, адпаведная і адказнасць). У нас у аёнове грамадства сёння пануе прынцып нажывы, а пры такім стымуле добрага не даводзіцца чакаць. Ацэнка людзей адбываецца не за працу; нават бізнесмены мясцовыя адзін аднаго падманваюць. Дзяржава з такімі ўстоямі раней ці пазней разваліцца. Асабліва моладзь гэта бачыць, разумее — і адпаведна сябе паводзіць.

*— У рэдакцыйнай пошце ляжыць матэрыял аб кіраўніках Маладзечна за апошні час. Таму хацелася б пачуць слоў колькі пра "ваш перыяд".*

— У 1991-м, першыя месяцы прыходу ў гарвыканком Г. Карпенкі, я быў яго намеснікам (зазначу, дарэчы, што В. Ганчар быў абраны першым намеснікам старшыні Савета, а не выканкома!). Генадзь Дзмітрыевіч па натуры радыкал, ён не прывык азірацца на наступствы. Некаторыя рашэнні ў выканкоме ў той час прымаліся без належнай прапрацоўкі – па прынцыпе рэвалюцыйнай неабходнасці. Максімальная прыватызацыя, нязгода з якой і стала асноўнай прычынай маёй адстаўкі, многае разбурала. Грошы, выручаныя ад яе, з-за высокай інфляцыі хутка ператвараліся ў нішто. А цэны на прыватызуемыя аб'екты ўстанаўліваліся часам невялікія.

*— З вамі можна спрачацца, тым болей, што з В. Ганчаром у вас, наколькі я ведаю, былі нармальныя, рабочыя адносіны.*

— Я магу канкрэтна. Былі ў мяне пытанні па краме "Спорттавары" – маладзечанцы скажуць, ці пайшлі змяненні на карысць. Існавалі з Домам быту па вул. Будаўнікоў цяжкасці, якіх можна было б пазбегнуць. Не забаранялі ў горадзе прымаць удзел у аўкцыёнах некаторым фірмам, што мелі непрыемнасці з падатковай інспекцыяй (у цяперашні час амаль усе з іх развaліліся ці на шляху да гэтага; што гаварыць пра малыя структуры, калі "Бамар", як відаць, сваю дзейнасць абмяжоўвае). Выдзелілі ў свой час фірме "Радзівіл-II", заснавальнікамі якой былі жыхары Мінска, пад казіно памяшканне ў рэстаране "Папараць-кветка", а праз чатыры месяцы падатковая інспекцыя прад'явіла ім іск амаль на 10 мільёнаў рублёў. Заснавальнікі знікаюць, банк забірае маёмасць у лік крэдыту.

Адносіны паміж мною і Г. Карпенкам былі даволі складаныя. Можа, перш за ўсё таму, што не браў, як кажуць, адразу "пад казырок", а адстойваў свае пазіцыі і падыходы як на паседжаннях гарвыканкома, так і ў час работы сесіі гарсавета. Але мне і сёння цікава, чаму, калі адбывалася чарговая ратацыя членаў выканкома, я заставаўся ў яго складзе. Нават калі працаваў у іншым месцы.

А ў той час я выступаў за прыватызацыю ў інтарэсах працоўных калектываў шляхам стварэння акцыянерных таварыстваў; за фірменны гандаль: маладзечанскія "Зубр", "Птушка" і цяпер карыстаюцца папулярнасцю. Што тычыцца прыватызацыі, то я звяртаў увагу на нераспрацаванасць механізма вяртання маёмасці (у выпадку неабходнасці), на асобныя нестыкоўкі з заканадаўствам. Мяркую, што адказаў бы за гэта на той час Цюшкевіч. Дый маральна было цяжка адчуваць, як робіцца штосьці не тае, што людзей, на мой погляд, уводзяць у зман. Таму і пайшоў у адстаўку.

*Мы ўдзячныя вам за шчырыя адказы. Спадзяёмся і ў далейшым на гэта.*

***Запісаў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

***З 6 лютага на тэрыторыі рэспублікі часова прыпынена дзяржаўная рэгістрацыя і перарэгістрацыя суб'ектаў недзяржаўных формаў уласнасці (у тым ліку і прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы).***

## Стоп, прадпрымальнікі!

Прыпынена таксама выдача спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) на права вядзення гаспадарчай і іншай дзейнасці да прыняцця адпаведнага ўказа прэзідэнта РБ.

Аб усім гэтым паведамляецца ў тэлеграме, падпісанай прэзідэнтам, якую на мінулым тыдні атрымалі некалькі міністэрстваў, а таксама органы выканаўчай улады на месцах.

***Па матэрыялах цэнтральнай прэсы.***

### У рэгіёне

## Чарнобыль-Маладзечна

***17 вёсак Маладзечаншчыны знаходзяцца ў зоне пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем. Жыхары атрымліваюць дапамогу— 6600 рублёў на чалавека плюс штомесячная даплата, якая таксама вагаецца ў межах 6-8 тысяч.***

Такую штомесячную кампенсацыю для жыхароў 16 вёсак Хоўхлаўскага і адной Мясоцкага сельсаветаў прадугледзеў Кабінет Міністраў сваёй пастановай ад 30 сакавіка мінулага года. Новай пакуль не было. А вось чуткі, што Белгідрамет скароціць спіс вёсак, якія ўваходзяць у зону кантроля, існуюць пастаянна. Няўжо і на гэтым будзем эканоміць?

У многіх вёсках і пасёлках Маладзечанскага раёна пасялілася 351 сям'я перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны. 228 жывуць у пасёлку Чысць, які часам клічуць чарнобыльскім. Для перасяленцаў, як і для ўсіх жыхароў гэтага не зусім звычайнага па сённяшніх мерках населенага пункта, створаны выдатныя ўмовы. Людзі забяспечаны жыллём (некаторыя, праўда, стаяць на чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў, і такая перспектыва для іх рэальная). Мясцовым акцыянерным таварыствам "Забудова" пабудаваны цэлы сацыяльна-культурны комплекс, адкрыты свае перапрацоўчыя цэхі. Тут і каўбасны, дрэваапрацоўчы, і зверагаспадарка. Ёсць у пасёлку лазнева-пральны камбінат, школа з басейнам і спартыўным комплексам, бальніца з амбулаторыяй, дзіцячы сад, музычная школа. І гэта далёка не поўны пералік. Нездарма Чысць— адзін з нямногіх населеных пунктаў раёна, дзе з года ў год нараджальнасць перавышае смяротнасць.

Акрамя сем'яў перасяленцаў у раёне жыве 275 ліквідатараў наступстваў аварыі на ЧАЭС. Сімвалічна, што намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкома Барыс Бароўскі, які курыруе чарнобыльскія пытанні, сам мае пасведчанне ліквідатара. У 1988 годзе ён тры месяцы адпрацаваў у 30-кіламетровай зоне.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

## Каму патрэбны такі адпачынак?

***І зноў, як і ў снежні мінулага года, за выключэннем некалькіх цэхаў, што працуюць па тры дні на тыдзень, пайшоў у чарговы лютаўскі "адпачынак" калектыў Маладзечанскага радыёзавода "Спадарожнік".***

Прадпрыемству, заціснутаму з усіх бакоў кабальным падатковым прэсам, вялізнай платай за ацяпленне і электраэнергію, стала нават выгадней прастойваць, чым працаваць, пры гэтым аплачваць свайму персаналу 2/3 тарыфнай стаўкі.

Застаецца, праўда, таямніцай, як за 20-25 долараў можна пракарміць сябе і сваю сям'ю пры цэнах на паслугі і прадукты харчавання, блізкіх да сусветных, тым больш з пратэрміноўкай выдачы зарплаты на некалькі месяцаў.

***Алесь ЦАДКО.***

## Яечня на дарозе

***На спецыяльна абсталяванай аўтамашыне з Івянецкага племптушказавода везлі ў Валожын яйкі.***

З-за кароткага замыкання электраправодкі загарэўся кузаў, а ў ім, адпаведна, груз, упакаваны ў кардонныя скрынкі. Частка яек стала "яечняй".

Племптушказавод панёс страты на 850 тысяч рублёў.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

## Дом для пагранкамендатуры

***Дом ці кватэра, а дакладней іх адсутнасць, хвалююць сёння многіх. Не сталі выключэннем, на жаль, і афіцэры Астравецкай пагранкамендатуры. Службу тут праходзяць амаль 30 чалавек, з іх толькі 8 маюць кватэры.***

Астатнім застаецца жыць у інтэрнатах ці здымаць кватэры, якія ў Астраўцы, дарэчы, даражэйшыя, чым у іншых гарадах рэгіёна. У такой сітуацыі за вырашэнне гэтай праблемы наўрад ці возьмуцца мясцовыя ўлады, бо недахоп грашовых сродкаў у іх добра вядомы ўсім. У вайскоўцаў жа свой падыход. Тут лічаць, што калі б на будаўніцтва жылля ім аддавалі 30 працэнтаў ад сумы ад ацэнкі тавараў, якія затрыманы пагранічнікамі, то праз год-два такой праблемы не існавала б наогул. Яшчэ больш рэальным гэта падаецца, калі ведаеш: толькі за 1995 год сума склала амаль 5 мільярдаў рублёў.

Крыху інакш ідуць справы з будаўніцтвам новай пагранкамендатуры. Такая патрэба ўзнікла даўно, бо цяперашні стары будынак, цесната ў кабінетах не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Цяпер ва ўпраўленні пагранвойскаў ідзе падрыхтоўка неабходнай дакументацыі, а пабудаваць новую камендатуру плануецца ў 1997 годзе. Фінансаваць будоўлю, як мяркуецца, будзе Расія. А чаму і не? Межы ж цяпер ахоўваем разам з расійскімі пагранічнікамі.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

**Вы забыліся падпісацца на "РГ"?**

Не бяда. Да 10 сакавіка можаце паспець падпісацца на 3-і квартал.

**Каштаваць гэта будзе ўсяго 12 тыс. руб**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

63212 (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў 1

На 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на 63212 (індэкс выдання)

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

| Кошт | падпіскі | 12000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# Мільён за перамогу

***Не хапала ў зале рэстарана "Маладзечна" толькі букмекераў— "Вашы стаўкі, спадары. Хто пераможа? Пятроў ці Марчук"?"Якое піва лепшае: "Жоўты бык", "Блакітны бык" (прапаноўвалася восем гатункаў)"? Тры баі (з шасці раўндаў кожны) правялі ў гэты вечар баксёры-прафесіяналы.***

***Менавіта так, рэйтынгавымі баямі было адзначана нараджэнне мясцовага філіяла Беларускай асацыяцыі прафесійнага бокса. Аматары гэтага віда спорту, наведвальнікі рэстарана маглі бачыць пацалункі баксёраў, сяброўскае паляпванне па плячах, скупыя мужчынскія слёзы.***

Вялікі рынг; па яго баках— рэклама спонсараў, якая даводзіла, што лепш за ўсё грошы захоўваць у Брэсткамбанку, а самы якасны па ўсіх паказчыках гандаль толькі ў ТАА "Фенікс". Вялікі выбар страў, спіртных напіткаў (27 назваў). Былі б толькі грошы.

Сярод тых, хто выклаў 30 долараў за ўваход, беспрацоўных, маламаёмных не было. Публіка размясцілася за дваццацю столікамі. Сярэдні ўзрост наведвальнікаў— ледзь за трыццаць. Народ атрымаў і хлеб, і відовішча. Акрамя багатага меню і вялікага выбару спіртнога хапала ўражанняў ад паядынкаў баксёраў (чатырох мінчан, аднаго барысаўчаніна і нашага Валерыя Каплі), ад выступлення прыгажуньдзяўчат, якія танчылі так, што ўздымаўся адрэналін у крыві мужчын.

**Віцэ-прэзідэнт Маладзечанскага філіяла асацыяцыі прафесійнага боксу Яўген Ржачыцкі:**

—Наша сённяшняя задача— паказаць, што мы існуем. І не толькі, каб зарабляць грошы. А дзеля таго, каб працаваць з дзецьмі, трэніраваць іх, далучаць да спорту, выхоўваць якасці, неабходныя ў жыцці. Сённяшнія баі прафесіяналаў жорсткія, але не бязлітасныя. І не столькі дзеля грошай выступаюць яны (мільён пераможцу і паўмільёна таму, хто прайграў), колькі кіруе імі любоў да спорту.

**Сяргей Асанаў, майстар спорту СССР, чэмпіён Польшчы сярод аматараў:**

—Сам я з Расіі, а жонка з Маладзечна. Як жартуюць— куды галава, туды і вушы. Буду трэніраваць дзяцей рознага ўзросту. Удзячны гораду, які стварае неабходныя ўмовы для сур'ёзных заняткаў боксам. Упэўнены, што ў недалёкай будучыні будуць у Маладзечне чэмпіёны краіны. А можа і ...

***Васіль САВІЦКІ.***

# Футбалістам добра

***Становішча сёння складанае паўсюль. Розніца хіба толькі ў "дрэнна" і "вельмі дрэнна"***

Тым не менш маладзечанскі гарвыканком змог выдзеліць гэтае складанае фінансавае становішча ў адным асобна ўзятым суб'екце гаспадарання. Ім стаў футбольны клуб "Маладзечна". Ад пачатку лютага ён да канца года вызвалены ад арэнднай платы за выкарыстоўваемыя службовыя памяшканні на гарадскім стадыёне.

Ніхто не супраць футбола, і застаецца парадавацца за ФК "Маладзечна". Можна толькі здагадвацца, якія пачуцці выклікала падобнае рашэнне ў любога вытворцы ці нават камерсанта.

Задаволена таксама хадайніцтва гаспадарча-разліковай стаматалагічнай паліклінікі аб вызваленні ад арэнднай платы і яе. На мэце — недапушчальнасць стратнай работы. Пры гэтым на прадпрыемстве маюць быць фіксаваныя цэны на паслугі.

А наогул маладзечанцы радуюцца таму, што з 1 лютага павышальны каэфіцыент да цяперашніх ставак арэнднай платы і збораў з арандатараў за нежылыя памяшканні ды збудаванні складае 1,3. Аднак здзіўляе не гэта — вось каб зніжэнне цэнаў, каэфіцыентаў і іншага! Цікавай падаецца фармулёўка-абгрунтаванне: у сувязі з падвышэннем мінімальнай заработнай платы.

Хутка даведаемся: у сувязі з надыходам вясны, аплата камунальных паслуг (праезд у аўтобусе, бохан хлеба і г. д.) павялічваюцца ў 1,5 (1,3 ці 2) раза.

***Аддзел інфармацыі.***

# "Пяцёрка" заехала ў гурбу. Вадзіцелю далі прэмію

***Гарадскі маршрутны аўтобус №5 з'язджаў у месца над чыгуначным праездам, што па вуліцы Віленскай у Маладзечне, як перад самым яго "носам" на слізкай праезнай частцы занесла магутны КамАЗ з прычэпам. Здавалася, яшчэ імгненне, і аўтобус з поўным салонам пасажыраў урэжацца ў КамАЗ.***

Але вадзіцель Юрый Кірзіёнак не разгубіўся: рэзка скіраваў на абочыну дарогі, у вялікую гурбіну, якая аказалася тут вельмі дарэчы. Ніхто з пасажыраў аўтобуса не пацярпеў. Толькі тыя, хто стаялі, набілі па пары гузакоў, бо паваліліся ад рэзкага штуршка.

За тое, што не разгубіўся ў непрадбачнай сітуацыі, прадухіліў аварыю і збярог людзей і машыну, Юрый Кірзіёнак атрымаў ад кіраўніцтва аўтобуснага парка №4 падзяку і грашовую прэмію.

—Слізкая, амаль непадсыпаная дарога, адсутнасць пад'ездаў да аўтобусных прыпынкаў— узімку для нас сапраўдная бяда. Штомесяц мы складаем акты аб нездавальняючым стане праезнай часткі і накіроўваем іх у ВА "Камунальнік", аднак усё застаецца па-ранейшаму,— гаворыць **намеснік дырэктара аўтапарка №4 па гарадскіх перавозках А. Альшэўскі.**

...У студзені, паслізнуўшыся, упала і трапіла пад калёсы гарадскога аўтобуса 74-гадовая бабуля, якая пераходзіла вуліцу на чырвонае святло. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў яна памерла. Сур'ёзныя траўмы атрымаў мужчына, які таксама паслізнуўся на аўтобусным прыпынку і трапіў пад набіраючы хуткасць аўтобус.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

Дом састарэлых- наш агульны боль.

# Жабрак ці прайдзісвет?

***—Хто можа— хай дапаможа, а хто не можа— хай таму Бог дапаможа,— трэці па ліку жабрак прайшоў праз вагон электрычкі Мінск-Маладзечна. Спачатку з'явіўся нахабны стары, які фальцэтам спяваў духоўную песню. Не спяшаючыся, праходзіў і, калі пасажыры не клалі ў шапку грошы, спыняўся каля іх, зыркаў вачыма, чакаў "падзяку". Потым прыйшла жанчына бальзакаўскага ўзросту і адкрыта прасіла дапамагчы ёй— інваліду другой групы. І вось трэцяя "ахвяра перабудовы" са сваёй жалобнай гісторыяй: адзін ва ўсім свеце, згарэла жытло, эпілепсія, грамадскія туалеты. Дык вось я і падумаў: навошта жыць у туалеце, калі ёсць магчымасць знайсці, хай дзяржаўны, але дах над галавой, у доме састарэлых.***

## Я стаміўся хаваць сваіх жыхароў.

Як трапіць у дом-інтэрнат?— пытанне да **дырэктара Маладзечанскага дома-інтэрната інвалідаў і састарэлых Міхаіла Міхайлавіча Страшынскага.**

—Перш за ўсё трэба звярнуцца ў аддзел сацыяльнага забеспячэння, жыхару вёскі— у сельсавет. Адказныя работнікі абследуюць і складуць акт аб матэрыяльным становішчы. Таксама неабходна прайсці медыцынскую камісію. Потым паперы дасылаюцца ў абласное ўпраўленне сацыяльнай абароны насельніцтва, якое выдасць пуцёўку ў той ці іншы дом-інтэрнат. І за 15 дзён чалавек павінен уладкавацца.

*—Дзе ёсць у вобласці падобныя установы?*

—Ёсць дамы-інтэрнаты агульнага тыпу для інвалідаў і састарэлых. Акрамя Маладзечна— у Лагойску, Слуцку, Нясвіжы, Стаўбцоўскім раёне. А ёсць дамы-інтэрнаты псіхахронікаў у Свіры, Чэрвені, Івянцы, Мядзельскім, Стаўбцоўскім, Барысаўскім, Капыльскім, Пухавіцкім раёнах.

*—Калі я правільна зразумеў, людзі з псіхічнымі захворваннямі складаюць большасць сярод тых, каму неабходна дапамога дзяржавы?*

—Так і ёсць на самой справе. Няма сэнсу казаць аб экалогіі, алкагалізме. Усё бачым на свае вочы. У Мінскай вобласці ёсць два дзіцячыя дамы, у якіх жывуць дзеці з псіхічнымі і фізічнымі недахопамі. Толькі нарадзіліся немаўляткі— адразу іх на дзяржаўны хлеб.

*—Раскажыце аб сваіх жыхарах.*

—У нас жыве 178 чалавек. 60-70— ляжачыя: ад хваробы, узросту. Дакладна сказаць немагчыма— сёння яшчэ чалавек як-ніяк ходзіць, а заўтра стане яму горш. Будзе прыкаваны да ложка. 60% маюць асабістае жыллё, амаль усе— родных і блізкіх. 15 жыхароў былыя зэкі, маюць судзімасці, і не адну. Вось такія, я лічу, здаровыя, 50-60-гадовыя мужыкі сядзяць, у карты гуляюць, а калі просіш што-небудзь зрабіць— хворыя. Свае грошы прап'юць, у старых падманам возьмуць. З такімі ў нас размова кароткая. За студзень трох за п'янства, дэбош выгналі— вырашылі агульным сходам пражываючых.

## За чалавецтва крыўдна.

**Тэрэза Віктараўна Трайно, культарганізатар дома-інтэрната:**

—Розныя людзі— розныя лёсы. Жыве ў нас цырульнік, які ўсё жыццё працаваў у РКБА. Паехаў у Ізраіль, праз год вярнуўся ў горад і папрасіўся да нас. Родных не засталося. А сябры яго, такія ж старыя і хворыя, прыходзяць часцяком пагаліцца, проста пасядзець, паўспамінаць.

Вось яшчэ адна сумная гісторыя. Чалавек працаваў брыгадзірам, лесніком. Дзецям купіў па машыне, дапамог з грашыма ў набыцці кватэр. Сын у Мінску, дачка ў Вільнюсе. Аднойчы прыехалі, узялі пенсію ў старога, каб даляры яму набыць. Штосьці ні іх, ні даляраў.

Жанчына прывезла сваю свякруху, не сарамеючыся дадала: старая, вось-вось памрэ. Грошай няма. Хай дзяржава хавае.

Сям'я прыехала з Чарнобыльскай зоны. У калгасе атрымала жыллё. Гаспадыня пайшла на ферму даяркай. Сур'ёзна захварэла. Муж не захацеў даглядаць, здаў у дом-інтэрнат. А сам прывёў у хату маладзіцу. І цяпер хворая жанчына хоча шлюб скасаваць, каб хоць з маёмасці ёй што-небудзь засталося.

Жанчына сорак шостага года нараджэння поўнасцю аслепла. Так ужо жадае сустрэцца з роднай сястрой, якая жыве ў Мінску. А тая наогул і не піша.

Прывозяць дзеці сваіх бацькоў. Гавораць: у бальніцу, а тыя ўсё чакаюць, калі ўжо выпішуць.

Памёр чалавек— тэлеграму родным даем, каб прыязджалі. А яны ў адказ нам: не можам, хавайце без нас.

На калідоры мне паказалі "маладых". Ён на мыліцах. Размаўляюць. Здаецца, абодвум за 60. Не так даўно афіцыйна ўступілі ў шлюб. Сапраўды, жыццё— рэч непрадказальная.

***Васіль САВІЦКІ.***

# Пад эгідай ЮНЕСКА

***Статус нацыянальнай сустрэчы надаецца III злёту беларускіх школ і клубаў ЮНЕСКА, які пройдзе з 21 па 24 лютага ў СШ №6 г. Маладзечна. Вялікі гонар для горада прымаць 27 дэлегацый усіх рэгіёнаў краіны. Першыя злёты праходзілі ў Мінску і Брэсце. І вось Маладзечна становіцца ў адзін рад з імі.***

З 1990 года СШ №6— спецыяльная школа з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы. Яна з'яўляецца асацыіраваным членам ЮНЕСКА, прымае шырокі ўдзел у многіх яе праграмах.

Практычныя справы на карысць міру— такі дэвіз у членаў школьнага клуба ЮНЕСКА. Абмен выстаўкамі дзіцячых малюнкаў са сваімі партнёрамі і са штата Фларыда, ЗША. Марафон міру, удзел у вырабе габелену веку ці дывана міру,— гэтыя і многія іншыя цікавыя справы на рахунку клуба, які стаў стартавай пляцоўкай для стварэння ў школе маладзёжнай грамадскай арганізацыі. Дарэчы, у красавіку-маі старшыня клуба Насця Арцюшэнка і яе аднакласнік Саша Семашкевіч прымуць удзел у рабоце класа дружбы ў Ірландыі.

—Я веру, прыйдзе той час, калі кожны з нашых вучняў зможа вось так, як Насця і Саша, у гады вучобы ў школе пабываць за мяжой, увачавідкі пазнаёміцца з культурай і традыцыямі іншых краін, удасканаліць сваё веданне англійскай мовы,— гаворыць дырэктар СШ №6 Ірына Расціславаўна Байтаз.

А пакуль школа рыхтуецца сустрэць сваіх гасцей-аднадумцаў. Горад дапамагае ёй у гэтым. Зрэшты, у фестывальнага Маладзечна ў гэтай справе назапашаны вялікі вопыт.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

Крымінал. Трагедыі. Здарэнні

# Засталіся вучні без школы

***МЯДЗЕЛЬСКІ РАЁН. На мінулым тыдні загарэлася Пузыроўская сярэдняя школа. Адбылося гэта ноччу. Больш таго, паведамленне аб загаранні службе "01" паступіла са спазненнем. І калі пажарныя падраздзяленні даехалі да цэнтральнай сядзібы калгаса "Бальшавік", школу поўнасцю ахапіла полымя, а дах абваліўся.***

Чаму адбылося загаранне? Пакуль на гэта пытанне дакладнага адказу няма, вядзецца следства. А вучням давядзецца заканчваць навучальны год у розных прыстасаваных памяшканнях. Дырэкцыі некаторых школ ужо выказвалі гатоўнасць дапамагчы пагарэльцам партамі, іншым інвентаром.

***Аддзел інфармацыі.***

# І сабакі не брахалі

***Вялікую канкурэнцыю каўбаснаму цэху райспажыўсаюза стварыў Ашмянскі мясакамбінат у Астраўцы, адкрыўшы свой фірменны магазін. У ім, у зручны для астраўчан час, па даступнай цане, можна купіць каўбасы розных гатункаў, сасіскі, мясны фарш.***

Магазін працуе, набывае папулярнасць, бо каму ахвота плаціць вялікія грошы за няякасны тавар, які быў у астравецкіх магазінах. Таму і ідуць сюды заўсёды людзі, здараюцца нават і чэргі.

Аднак для кагосьці нават кошт ашмянскіх каўбас паказаўся высокім, і аднойчы, зімовай ноччу, праз акенца, дзе заўсёды падаецца свежы тавар, злодзеі "свіснулі" прысмакаў больш як на мільён. Як аказалася, гэта была ўжо другая спроба, якая і ўвянчалася поспехам, бо за першую ходку начным візіцёрам пад'есці не ўдалося. Ці былі гэта адны і тыя ж злодзеі, ці, мо, дзейнічалі яны паасобку— высвятляе зараз следчы аддзел Астравецкага РАУС, а жыхары пасёлка, на шчасце, і цяпер ласуюцца мяснымі вырабамі з суседняга раёна.

Такім чынам, не лічачы страт магазіна ды лішняй работы для следчых, усё ідзе сваёй чарадой. Ну, а начныя візіцёры, хочацца думаць, будуць у "месцах не вельмі аддаленых", сёрбаючы баланду, з сумам прыпамінаць смак ашмянскіх каўбас. Вось каму прыйшлося папацець, бо з'есці іх на мільён— таксама здароўе патрэбна.

***Міхаіл СІВЫ.***

# Гаспадар быў забіты выстралам у сэрца. Жонку доўга мучылі...

***Забойца добра вядомага ў гарадскім пасёлку Івянец чалавека, былога дырэктара племптушказавода, а пасля прадстаўніка адміністрацыі мясцовай кандытарскай фабрыкі У. ускалыхнула ўвесь Валожынскі раён.***

Раней пра заказныя забойствы ці рабаванні тут чулі толькі па тэлебачанні ды з газет. Тое, што адбылося 1 лютага каля 21 гадзіны ў Івянцы, нагадвала дрэнны фільм. Трое, пакуль што неўстаноўленых злачынцаў, пагрукалі ў дзверы. Гаспадар быў забіты адразу выстралам у сэрца. Жонку доўга мучылі.

Забойцы пакінулі дом, прыхапіўшы скураную куртку і два залатыя заручальныя пярсцёнкі. Няўжо так танна каштуе чалавечае жыццё?

Следства вядзе пракуратура.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

